# Інфармацыйныя зборкі

**(Заканчэньне з № 43-44 (479-480)**

Пытаньне аб адукацыі ў Амэрыцы стаіць зусім інакш, чымся ў старым сьвеце. Агульна кажучы, праблема як здабыць адукацыю тут ня йснуе. Кажны малады хлапец (дзяўчына, ці чалавек сталы), калі наважыць, можа вучыцца. Вялікіх перашкод няма. Затое перад моладзяй войстра стаіць пытаньне іншага парадку: вучыцца, ці рабіць даляры? Бо ў сяньняшнім своеасаблівым эканамічна-сацыяльным укладзе гэтага краю, чалавек малады, крыху граматны, зь невялікай спэцыялізацыяй у вадным кірунку можа лёгка вырабіць больш у грашавым разьліку за некага з шырокай эрудыцыяй, на якую тут ёсьць адно абмежаваны збыт. І так, шмат тут спакусы для хлапцоў і дзяўчат, каб пакідаць школу заранЬня дый йсьці ў заработкі. Супраць гэтае агульнае хваробы выступіў быў аднойчы сам Прэзыдэнт Айзэнгаўэр у «Адчыненым лісьце да студэнтаў Амэрыкі» (гл. «Рыдэрс Дайджэст» за верасень г. г.), дзе ён як можа заахвочвае моладзь канчаць сярэднія школы й каледжы.

Наагул на адукацыю трэба глядзець як на крыніцу сілы. Каб здабыць гэтую сілу, патрэбныя вялікія ахвяры. Затое-ж і ўзнагарода ёсьць вялікая, бо безь сілы няма й ня можа быць ні шчасьця, ні свабоды. Праўдзіва шчасьлівым можа быць толькі чалавек сільны — духова, фізычна, эканамічна. Раней ці пазьней, чалавек сільны стане свабодным — чалавек слабы будзе век на паслугах у сільных. Гэта нязьбітая, зялезная лёгіка — яе нельга абыйсьці... Затым, пад умовай, што чалавек мае заложаны ў сваім характары салідны маральны фундамэнт — а гэта ён можа атрымаць толькі цераз рэлігійнае ўзгадаваньне — адукацыя можа даць яму ўсебаковую сілу, шчасьце ў жыцьці й свабоду ў найлепшым значэньні гэтага слова. Чалавек цёмны гэта чалавек недарослы да свабоды — ён ня ведае як карыстацца яе прывілеямі, а яе абавязкі яму непасільныя. Чалавек асьвечаны заўсёды ведае, што рабіць, ды мае неабходную мерку сілы волі, каб пачаць рабіць патрэбнае, ды спыніць рабіць тое, што становіцца шкодным. Бо няма ў сьвеце, апрача аднаго Бога, рэчаў абсалютна благіх. Затое ўва ўсякай сытуацыі ёсьць пункт гранічны дзе канчаецца дабро, а пачынаецца зло. Вось навука побач з рэлігіяй — а пара гэта ёсьць неразьдзельнай — можа даць чалавеку магчымасьць асьвятліць сьцежку жыцьця. Цёмны змушаны йсьці вошчупкам, нярас паб'е сабе лоб, а бывае й на сьмерць завалiцца ў процьму.

Такія ёсьць магчымасьці асьветы й цемнаты. Кажны чалавек паводля свае ўласнае няпрымушанае волі выбірае й асьвятляе сабе дарогу жыцьця. Беларусам-жа асабліва адукацыя, што паветра, неабходная да жыцьця. На нас слабых наш паняволены народ ня можа мець ніякае надзеі. Бо каму можа памагчы той, хто ня ў сілах памагчы самому сабе? Дык усімі сіламі здабывайма асьвету, калі ня хочам, каб той шляхотны ідэялізм, якім жыве наш вызвольны рух, не апынуўся канчаткова ў катэгорыі саламянага агня. Не забывайма, што без сьвятла ўсё вяне й гіне — у цемнаце нічога не разьвіваецца.

**Эканоміка (Палітычная эканомія)**

Эканоміка ёсьць навукай пра народную гаспадарку. Шпаркае тэмпа гаспадарчага жыцьця Амэрыкі й высокі ўзровень гэтага жыцьця часткова ёсьць вынікам добра пастаўленага навучаньня эканомікі як школьнае дысцыпліны. Няма тут. праўда, асобных эканамічных факультэтаў, як гэта практыкуецца па эўрапэйскіх унівэрсытэтах (факультэты палітычнае эканоміі). Эканоміка тут ёсьць адным з прадметаў ведамых пад агульным клічам палітычных навук (гісторыя, эканоміка, сацыялёгія, арганізацыя дзяржавы, і. г. д.). Эканамічныя студыі не належаць да лёгкіх, патрабуюць добра падрыхтоўкі, займаюць шмат часу. У гэтым прадмеце можна атрымаць як ступень бакалаўра, так магістра й доктара. Працаваць можна эканамістым у карпарацыі, у дзяржаўным апараце, або ў настаўніцкай прафэсіі.

*

**Далей мгр. Галіна Русак** падала кароткую інфармацыю пра гуманістычныя галіны веды, пра магчымасьці, якія яны нам адкрываюць на будучыню. Традыцыйна гуманістычныя навукі робяць націск на шырэйшы і больш агульнікова абсяг прадметаў у працілегласьць да спэцыялізаваных галінаў, дзе націск робіцца на адну галіну веды, як напр. мэдыцына, якая нас падрыхтоўвае выключна да аднэй прафэсыі.

Іншымі славамі, гуманістычная адукацыя стараецца ўзбагаціць развіцьцё чалавека і даць яму шырэйшую пэрспэктыву на жыцьцё ў першую чаргу праз вывучэньне важных навуковых і мастацкіх дасягненьняў нашай цывілізацыі (культуры й тэхнікі) замест беспасрэднага прымяненьня ведаў да спэцыфічных абставінаў. Сюды належаць такія галіны веды, як: мастацтва, музыка, мовы (моваведа й літаратура), філязофія і часта спалучаная гісторыя апошняя часта залічаецца да сацыяльных галінаў веды). Шмат хто лічыць, што студыяваньне гэтых прадметаў ёсьць не практычным і аплачваецца толькі для багатых. «Што рабіць пасьля заканчэньня такіх студыяў?» —часта паўстае пытаньне. Дзеля таго, я хачу зьвярнуць увагу чытача на магчымасьці працы, якія адкрываюцца нам пасьля заканчэньняў такіх атудыяў.

*

Найбольш безнадзейным з пункту гледжаньня практычнасьці здавалася-б павінна быць м а с т а ц т в а. Аднак-жа так ня ёсьць. Насуперак спадзяваньням, выбар працы ёсьць даволі вялікі, патрэбна толькі зараднасьць. Вы можаце, прыкладам, уладзіцца як камэрцыйны мастак. Установы, якія затрудняюць гэтую групу людзей ёсьць наступныя: рэклямовыя агенцыі, камэрцыйныя мастацкія студыі, выдавецкія ўстановы. Індустрыя таксама патрабуе камэрцыйных мастакоў для удалага рэклямаваньня сваіх прадуктаў. Работа камэрцыйнага мастака заключаецца ў ілюстраваньні часапісаў, кніжак, прыгатаўленьні плякатаў, ці навет тэлевізыйных рэклямаў.

Другой магчымасьцяй ёсьць затрудненьне пры ладжаньні выставаў, г. зв. „display artist“. Вялікія склепы патрабуюць такіх мастакоў для эстэтычнага ўладжваньня будынкаў унутры і для рыхтаваньня выставаў у вокнах. Музэі патрабуюць мастакоў для ладжаньня сваіх выставак.

Новай галінай, якая досьць хутка разьвіваецца ёсьць дэкарацыя жыльлёвых дамоў, ці то установаў — «interior decorating». Да гэтага часу аднак гэтая галіна працы ёсьць высока канкурэнцыйнай. Тэкстыльная індустрыя патрабуе мастакоў для апрацоўваньня матываў на матар'ялы. Шматлікія мастакі працуюць самастойна і прадаюць свае працы для розных установаў.

*

Трэба коратка ўспомніць і пра **іншыя галіны веды.** Музыка не дае гэткіх шырокіх пэрспэктываў. Апрача музычнай кар'еры, амаль адзінай магчымасьцяй ёсьць праца настаўніцкая, якая наагул зьяўляецца ўдзячным полем для гуманістых. Яна ёсьць адкрыта для абсальвэнтаў любой галіны веды. Так доўга, як доўга мы будзем хацець вучыць нашых дзяцей пра дасягненьні нашых продкаў, так доўга настаўнікі будуць патрабавацца ў галінах мастацтва, музыкі, філязофіі, гісторыі і інш.

Статыстыкі падаюць, што ў пачатках 1960-ых гадоў будзе недахоп 165.000 новых настаўнікаў у год у ЗША для пачатковых і сярэдніх школаў. Тут трэба ўспомніць, што каб вучыць у пачатковых і сярэдніх школах, трэба мець закончаны некалькі прадметаў пэдагагічнага характару.

Каб выкладаць у вышэйшых школах, неабходна мець вышэйшую навуковую ступень, напачатку прынамсі магістра, а пасьля ступень доктара.

*

**Б і б л і я т э к а р с т в а** — хаця й лічыцца спэцыялізаванай галінай ды вымагае ступень магістра, аднак вартая ўспаміну тым, што яна адкрывае дарогу абсальвэнтам любой галіны веды, так як і настаўніцкая праца. Спэцыялізаваныя бібліятэкі патрабуюць абсальвэнтаў з ведай ці то музыкі, ці мастацтва, ці гісторыі.

Сакратарская праца ёсьць популярным затрудненьнем для моваведаў. Выканаўчы сакратар зьяўляецца правай рукой дырэктара й ёсьць вельмі паважаным становішчам. Шмат якія ўстановы патрабуюць перакладчыкаў, асабліва Паўднёва Амэрыканскія гандлёвыя кампаніі, а таксама лётніцкія лініі. Перакладніцкія ўстановы знаходзяцца ўва ўсіх большых гарадох. Некаторыя абсальвэнты з ведай моваў уладжваюцца як карэспандэнты ў экспорт-імпортных гандлёвых фірмах. Тут пералічаны толькі частковыя магчымасьці для гуманістых, але варта адзначыць, што яны вельмі шырокія.

*

Калі, з тых ці іншых прычынаў, нельга студыява[illegible] у дзень, пры большыні амэрыканскіх унівэрсытэтаў існуюць **вячэрнія школы,** дзе можна поўнасьцяй закончыць студыі й здабыць навуковую ступень. Дыплёмы вячэрніх курсаў пры ўнівэрсытэтах ёсьць поўнавартасныя й вызнаюцца нараўні зь іншымі. Ня гледзячы на некаторыя ад'емныя бакі студыяў вечарамі, ёсьць шмат і дадатніх, таму што прадметы можна разлажыць на даўжэйшы час, у меру магчымасьцяў іх аваладаньня, ды працаваць у дзень на сваё ўтрыманьне. Дзеля таго, што сяньня ўжо амаль немагчыма атрымаць больш-менш лепшую працу ня маючы вышэйшай асьветы, колькасьць студыюючых вечарамі ў амэрыканскіх школах вельмі вялікая.

**А. Кароль**

**ПАГАДНЕНЬНЕ АБ АНТАРКТЫЦЫ**

У Вашынгтоне падпісана пагадненьне паміж прадстаўнікамі 12-ці краінаў, якія бралі ўдзел у канфэрэнцыі ў пытаньнях Антарктыкі. Пагадненьне, выпрацаванае ў выніку сямітыднёвых абмеркаваньняў, прадугледжвае супрацоўніцтва паміж зацікаўленымі дзяржавамі, у тым ліку Задзіночанамі Штатамі й СССР, у галіне навуковых досьледаў Антарктыкі дзеля мірных мэтаў. Пагадненьне прадугледжвае таксама забарону ядзерных выпрабаваньняў у Антарктыцы ў ваенных ці мірных мэтах, а таксама стварэньне ракетных базаў. Кажная з краінаў, якая брала ўдзел у канфэрэнцыі, мае неабмежаванае права кантролі й навуковых досьледаў на ўсёй тэрыторыі Антарктыкі, у раёне на паўдні 60-га градусу паўднёвай шырыні. Прадугледжваецца таксама, што кажная дзяржава, якая зьяўляецца сябрам Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў, мае права ў кажны мамэнт далучыцца да гэтага пагадненьня. Што-ж датычыць дзяржаваў, якія не зьяўляюцца сябрамі Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў, дык яны могуць далучыцца да пагадненьня толькі ў выпадку поўнай згоды з боку зацікаўленых у гэтым удзельнікаў пагадненьня.

У вадным з 14-ці пунктаў пагадненьня гаворыцца аб тым, што тэрытарыяльныя правы паасобных краінаў у Антарктыцы пакідаюцца ў іхным цяперашнім стане й што дзяржавы, якія цяпер ня маюць тэрытарыяльных правоў у Антарктыцы, ня могуць дамагацца іх і ў далейшым. Пагадненьне ўва ўсіх гэтых пытаньнях падпісанае на 30-цігадовы пэрыяд.

**ЗЬЕЗД АНГЕЛЬСКАЙ РАБОТНІЦКАЙ ПАРТЫІ**

**(Заканчэньне з 3-яй бачыны)**

ня ў тым, што масы патрабуюць сацыялізму, а партыйныя бюракраты яго ня хочуць. Справа выглядае якраз наадварот. Партыйныя актывісты дамагаюцца вернасьці аджылым догматам, якімі масы ўжо ня цікавяцца. І асабліва выразна выяўляецца гэты разрыў у дачыненьнях партыі да моладзі. А менавіта галасы цяперашняй моладзі ў значнай ступені вырашаць вынік наступных выбараў у 1964-ым годзе. Менавіта яны вырашаць лёс сацыялізму ў Англіі.

Змаганьне паміж дзьвюма плынямі аб складзе партыі на зьезьдзе засталося бяз выніку. Вонкавае адзінства партыі захаванае, але на працягу найбліжэйшых трох-чатырох год, перад новымі выбарамі, сацыялістычная партыя Англіі бязсумліву будзе мець пакутлівы працэс пераацэнкі ўсіх ейных вартасьцяў.

**С.**

*Фэльетон*

# Спячка й гарачка

**З радыёвай хвалі «Свабода»**

Заўсёды, даражэнькія мае, пачынаю пажаданьнем добрага дня, але заўсёды й сумлеў маю: ці ёсьць у **бэсэсэрыі** наагул добрыя дзянькі?

Усюды, куды ні кінься. — на заводах і ў калгасах — трэба ўздымаць вытворчасьць тэмпамі, гнаць, даганяць, пераганяць... А нядаўна й новы мэтад выдумалі, мэтад **рытмічнай працы,** гэта значыць, каб як машына тая працаваў чалавек. Кажную хвілінку плянуюць і ўлічваюць. Толькі, вось, народ наш, чамусьці, ніяк мэтаду гэтага не ўспрыймае. Наадварот, людзі свой мэтад маюць. Называецца ён **сьпячкай...** Партыйная «Зьвязда» навет гаворыць пра гэты мэтад. А сэнс ягоны такі: калі справаздачны тэрмін яшчэ далёка, дык не працуюць, а толькі варушацца... Каму-ж хочацца на партыю пот ліць? Варушацца й на сонца пазіраюць, ці хутка дзень скончыцца? Навет начальства рукі апушчае. Вось гэта й ёсьць **сьпячка.** Затое, калі набліжаецца якось-небудзь сьвята, май ці кастрычнік, або чарговы пленум ЦК, — пачынаецца **гарачка.** Тут, даражэнькія мае, пачынаецца такая мітусьня, шум і гвалт, што хоць усіх сьвятых з хаты вынось...

З раніцы да ночы бегаюць і блытаюцца агітатары, з ног зьбіваюцца й людзей з толку зьбіваюць. На двух працоўных — два агітатары. Крычаць яны пры станку, крычаць пры плузе, крычаць на пашы пры худым статку, навет бедны калгасны конь, як кажуць, мусіць слухаць палымяныя прамовы й заклікі партыі... Плякаты, плякаты, сьценгазэты, лёзунгі, заклікі, загады ўсюды — у клюбах, на сьценах, на паркане і ў сьвінарніках. Няма куды схавацца ад агітацыі — навет у хаце пад ложкам агітатар чалавека знойдзе.

Усе агітатары адно крычаць: «Бяжы на вахту!», «Улучайся ў спаборніцтва!», «Бяры прыклад з Мамая!», «Ідзі сьлядамі Гаганавай!», «Здавай, аддавай дзяржаве!», «Даганяй, пераганяй Амэрыку!», «Родная партыя хоча, родны ўрад кліча, родны Хрушчоў вядзе!» Вось гэта і ёсьць партыйная сэзонная **гарачка.**

Аднак, гэтая гарачка мала дзее на Беларусаў. Працуюць **«рытмічна»,** часта на сонца паглядаюць, ці хутка дзень скончыцца, каб заснуць, ану-ж прысьніцца ўначы што-небудзь няштодзённае, ня бэсэсэраўскае, накшталт: «Можа заўтра, калі абуджуся, ня будзе ні роднай партыі-маткі, ні роднага ўраду-бацькі, і я буду запраўды сіратой...»

Эх, даражэнькія, не здарма-ж актуальная прыказка кажа: «Столькі жыцьця, колькі ў песьні, столькі шчасьця, колькі ў снох!»

Адно, што ў нас рытмічна працуе, гэта бальшавіцкая прапаганда: зь лёгкай рукі й мізэрнай фантазіі партыйнага пісакі й пустамола і прадукцыя ўзрастае, і дабрабыт павялічваецца, і энтузіязм уздымаецца, і Амэрыка застаецца далёка ззаду...

Працоўны Беларус чытае ўсё гэта, слухае й думае: «Чаму-ж я нічога падобнага ня бачыў? Калі-б так было, дык кажны калгасьнік ужо мусіў-бы мець, прынамся, «Победу». А мы пакуль думаем, як зьвязаць гужы, каб запрагчы аднавокую кабылу ды завесьці два бітоны калгаснага малака ў раён, бо відушчая кабыла «Кадрыліха» (можа з намерам самагубства) ўскочыла ў сіласную яму...»

Гэта не фантазія, даражэнькія, гэта напісана ў рэалістычнай аповесьці Кулакоўскага — «Дабрасельцы»...

Думае Беларус, глядзіць на сонца й пазяхае. Гэта, не **гарачка,** гэта — штодзённая **сьпячка,** гэта бэсэсэраўская рэчаіснасьць.

Беларус апатычна зьвязвае гужы, ушчэмлівае ў аглоблі аднавокую кабылу й памаленьку выяжджае на старт... даганяць Амэрыку...

**нс**



## *Ліст у Рэдакцыю*

Вельміпаважаны сп. Рэдактар!

Дазвольце праз газэту «Бацькаўшчына» выразіць глыбокую й шчырую падзяку Клііўлендзкаму аддзелу Згуртаваньня Беларускае Моладзі ў Амэрыцы, на чале із сп. У. Дунцом, за наладжаньне й арганізацыю прыняцьця ў Беларускім Доме ў Кліўлендзе, за ўсю тую цяплыню, шчырасьць і той радасны настрой, якія панавалі на гэтым прыняцьці. Сардэчна дзякую прамоўцам: айцу Мікалаю, сп. сп. др. Грынкевічу, Кісламу, Кахаяноўскаму, Дунцу, успомніўшым маю скромную працу на культурна-грамадзкай ніве, а таксама ўсім сябром-кліўлендцам, што сваёю прысутнасьцяй узнагародзілі наш канцэрт і банкет-прыняцьце. Прашу верыць, што мае сілы й здольнасьці я й надалей буду аддаваць на карысьць Вольнай Беларусі. Асаблівыя-ж мае пачуцьці — кліўлендзкай Моладзі.

**Мікола Куліковіч**

**НІВОДНАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ, ТАВАРЫСКАЯ Й СЯМЕЙНАЯ УРАЧЫСТАСЬЦЬ НЕ ПАВІННА АДБЫЦЦА БЕЗ ЗБОРУ СЯРОД ПРЫСУТНЫХ АХВЯРАЎ НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»!**

**УВАГА! УВАГА!**

**Ужо выйшла з друку асобнай кніжкай у Выдавецтве «Бацькаўшчына» ведамая аповесьць Аляксея Кулакоўскага**

**«ДАБРАСЕЛЬЦЫ»**

**з уводным артыкулам Д-ра Ст. Станкевіча. Кніжка мае 112 бачынаў і каштуе ў ЗША і Канадзе 1,5 даляраў, а ў іншых краінах раўнавартасьць 1 амэр. даляра. Купляць і выпісваць можна з Адміністрацыі «Бацькаўшчыны» й у Прадстаўніцтвах «Бацькаўшчыны» ўва ўсіх краінах паза Нямеччынай.**

**НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ**

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
Mr. Aleksander Laszuk, 97 Moore Park Rd., London, S. W. 6.

**АЎСТРАЛІЯ:**
Mr. A. Vasilenia, 39 Edwin St., Croydon, N. S. W.
Mr. A. Maroz, 109 Morrison Rd., Midland Junction, W. A.
Mr. M. Nikan, 14 Steel St., Spotswood—Melbourne, Vic.
Mr. W. Akavity, 80 Tapley Hill Rd., Royal Park, S. A.

**БРАЗЫЛІЯ:**
Mr. C. Cimafiejčyk, Prasa 76, Tiridentes, Curitiba — Parana.

**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
Mrs. L. Bielenis, 2042 W. St. Paul Ave., Chicago 47, Ill.
Mr. B. Danilovich, 303 Howard St., New Brunswick, N. J.
Mr. Ul. Duniec, 814 Brayton Ave., Cleveland 13, Ohio.

**КАНАДА:**
Mr. K. Akula, 57 Riverdale Ave., Toronto, Ont.

**ФРАНЦЫЯ:**
Union des Travailleurs Biélorussiens en France, 26, rue de Montholon, Paris 9.
Mr. W. Kasztelan, 33 rue Kleber, Mouvaux (Nord).




**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.**

**Выдавец: Уладзімер Бортнік**

**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**